КОНКУРСЫ

**«ЛЕСАРУБ-99»**
Стар. 2.

**ЧАРНОБЫЛЬСКІ ДЗЁННІК Арсена САКУНА**
Стар. 3.



АКТУАЛЬНАЯ ГУТАРКА

**Генадзь ПЯЦІГОР АБ АДУКАЦЫЙНЫХ ІНІЦЫЯТЫВАХ ДЫЯСПАРЫ**
Стар. 4-5.

**ДАВІД-ГАРАДОЦКА-ТУРАЎСКІЯ СТРОІ**
Стар. 5.

**«ВАКЕНЦА ЧЫСЦІНІ». НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА Анатоля КІРВЕЛЯ.**
Стар. 6.



АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**ГРАН-ПРЫ Іны СНАРСКАЙ**

**ГАДАВЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ АНГЛІІ**
Стар. 7.

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА**
Стар. 8.




**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

14 кастрычніка 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 40—41 (2650—2651)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


АФІЦЫЙНА

## ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

Сёлета, 28 верасня, у Гродне ў час правядзення пятага пасяджэння Беларуска-Літоўскай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве старшынёй Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь А. Білыкам і генеральным дырэктарам Дэпартамента нацыянальных меншасцей і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі Р. Матузасам падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве.

Палажэнні пагаднення прадугледжваюць шырокае супрацоўніцтва суседніх дзяржаў у сферы забеспячэння правоў асоб, што належаць да нацыянальных меншасцей, а менавіта беларусаў Літвы (звыш 60 тысяч чалавек) і літоўцаў Беларусі (звыш 7 тысяч чалавек).

У адпаведнасці з палажэннямі пагаднення Дзяржкамітэт і Дэпартамент будуць развіваць супрацоўніцтва па прававому рэгуляванню і абмену практычным вопытам работы ў галіне нацыянальных адносін, ажыццяўляць каардынацыю дзейнасці па пытаннях аказання дапамогі беларусам Літвы і літоўцам Беларусі па адраджэнню і развіццю нацыянальнай культуры, праводзіць сумесныя мерапрыемствы, абменьвацца актуальнай інфармацыяй.

Кіраўнікі Дзяржкамітэта і Дэпартамента абмеркавалі таксама пытанне аб падрыхтоўцы да рэгістрацыі беларуска-літоўскага сумеснага прадпрыемства "Літоўскі цэнтр адукацыі, культуры і інфармацыі" ў вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна, заснавальнікамі якога выступілі з беларускага боку Рэспубліканская абшчына літоўцаў з літоўскага — Дэпартамент нацыянальных меншасцей і эміграцыі. Асноўнай сферай дзейнасці ствараемага прадпрыемства будзе падтрымка нацыянальна-культурнага развіцця грамадзян Беларусі літоўскага паходжання.

ВЕСТКІ З СУПОЛАК

ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ! Беларусы, якія апынуліся за межамі сваёй Айчыны, з асаблівым хваляваннем чытаюць і абмяркоўваюць публікацыі ў газеце "Голас Радзімы". Сардэчна дзякуем Дзяржаўнаму камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Беларускаму таварыству дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Беларускаму таварыству "Радзіма" за магчымасць такім чынам падтрымліваць кантакт са сваімі землякамі.

Шлём усім вам нізкі паклон і зычым плёну ў аб'яднанні ўсіх людзей, а тым больш сяброў і землякоў, умацаванні ўзаемаразумення. Перадаём вестку ўсім беларусам. Магчыма ёсць такія, што падтрымліваюць сувязь з роднымі, якія жывуць на Віннічыне і не ведаюць, што ў горадзе Вінніца ёсць зямляцтва беларусаў.

Газета "Голас Радзімы" падшываецца ў нас у бібліятэцы. Там усе маюць магчымасць пачытаць яе. Тым больш, што інфарматары нашы збіраюць тых, хто родам з Брэсцкай вобласці па панядзелках, хто з Віцебскай — па аўторках, хто з Гродзенскай — у чацвер, Магілёўскай — па пятніцах, Мінскай — па суботах.

Інвалідаў і хворых беларусаў стараемся праведаць дома і распавесці пра навіны з Беларусі. Каб мы мелі ксеракс, можна было б і распаўсюдзіць асноўныя звесткі з вашых газет такім людзям.

Пра нашу работу мы можам паведаміць больш падрабязна. Калі будзе магчымасць надрукаваць нашу дадатковую інфармацыю, мы будзем вам шчыра ўдзячныя.

З павагай

**старшыня савета Вінніцкага абласнога зямляцтва беларусаў Уладзімір ДЗЯМЕШКА.**

Украіна.

ПАДПІСКА

### ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

Працягваецца падпіска на газету "Голас Радзімы" ў Літве, Кыргызстане, Казахстане, на Украіне. Наш падпісны індэкс на Беларусі **63854.**

З Расіі магчымы паштовы перавод на адрас "Голасу Радзімы" з паметкай "за падпіску". З іншых краін аплату можна пераводзіць на валютны рахунак:

**3012202935017, Славянскае аддзяленне Беларускага бізнесбанка, код 834, абавязкова з паметкай: "Для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".**



Генадзь АЎЛАСЕНКА

### КОЛЕРЫ ВОСЕНІ

**Пажоўклыя**
**бярозавыя косы,**
**бляск медзі**
**на кляновай галаве...**
**І не прабегчы,**
**як улетку, босым**
**па скручанай ад шэрані**
**траве...**
**І не прайсці**
**сцяжынкай па прасёлку...**
**(Там лужын —**
**пашкадуеш, што залез).**
**І фарбамі**
**стоколернай вясёлкі**
**За ноч адну**
**заззяў зялёны лес.**
**Гарaць рабіны...**
**Як гараць рабіны!**
**Чырвоным,**
**горкім,**
**восеньскім агнём...**
**Ах восень,**
**восень...**
**Што ж ты нарабіла!**
**Зялёнага**
**ўсё меней**
**з кожным днём!**
**Барвовы колер лесу...**
**Жоўты — поля...**
**Блакіт ракі...**
**Зялёнага няма...**
**І хутка ўжо**
**ў адзіны белы колер**
**перафарбуе**
**ўсё наўкол зіма...**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

## Валянціна ШЧЭРБА:

# «Я НЕ СТАРАЛАСЯ ЗРАБІЦЬ З СЫНА СЛАВУТАСЦЬ»



Віталь ШЧЭРБА.

*У Кнізе Гінеса, дзе расказваецца пра самыя выдатныя падзеі і самых вядомых людзей на Зямлі, ёсць фотаздымак, пад якім напісана: "Беларускі гімнаст Віталь Шчэрба заваяваў рэкордную колькасць — 6 залатых медалёў у шасці відах гімнастычных практыкаванняў".*

*Віталь Шчэрба — шасціразовы чэмпіён на Алімпіядзе ў Барселоне 1992 года. На наступных Алімпійскіх гульнях дамогся чатырох бронзавых медалёў. 14 разоў быў чэмпіёнам свету і 10 — Еўропы. Прызнаны спартсменам планеты за дзесяцігоддзе.*

*Сусветны рэкорд. Сусветная вядомасць. Як дамогся хлопец з Мінска такой славы? Пра гэта гутарылі мы з яго маці Валянцінай Мікалаеўнай.*

**— Валянціна Мікалаеўна, як вам удалося выхаваць спартыўную зорку!**

— Ведаеце, я і не старалася зрабіць з сына славутасць. Гадавала, як умела. Хацела бачыць здаровым, разумным, адукаваным. Хацела, каб ён вырас самастойным чалавекам. І вельмі рада, што гэта ўдалося.

**— Відаць, выбару Віталя спрыяла тое, што рос ён у спартыўнай сям'і?**

— Так. Я майстар спорту па акрабатыцы, муж таксама быў акрабатам. Мой бацька — майстар спорту па штанзе. Калі Віталіку споўнілася паўтара года, я ўжо ставіла яго на руку і хадзіла з ім па пакоі. Крыху пазней ён рабіў "стойкі", куляўся па падлозе, а я яму раіла: "Складзіся", "Не гні пазваночнік", "Зрабі цела пакатым". Пасля таго, як мы з мужам развяліся, Віталік тры гады жыў у Кіеве ў майго бацькі, які вельмі паспрыяў фізічнаму развіццю ўнука: менавіта з плячэй дзядулі Віталік зрабіў першае сальта. Вось так і рос мой будучы чэмпіён.

**— Цікава, якім Віталь быў у паўсядзённым жыцці, чым захапляўся, цікавіўся!**

— Вельмі любіў прыроду. Зловіць жабку і бяжыць паказваць. Мяне аж перасмыкне, а ён кажа: "Паглядзі, якая яна прыгожанькая, як смешна разяўляе роцік".

Мы часта ездзілі за горад, больш за ўсё ў Крыжоўку. Дыхалі свежым паветрам, любаваліся кветкамі, дрэвамі, слухалі спевы птушак. Мяне радавала, што ў сына разнастайныя здольнасці, шмат інтарэсаў. У ім дзіўна спалучаліся такія, здавалася б, супрацьлеглыя якасці, як непаседлівасць і ўседлівасць. Мяркуйце самі. Круглы выдатнік і пастаянны непаседа.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

**МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

## СЯБРОЎ СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ

**У канцы верасня ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылося пасяджэнне прэзідыума, на якім падводзіліся вынікі работы за летні перыяд і каардынаваліся планы на будучыню.**

Скончыўся сезон аздараўлення беларускіх дзяцей за мяжой: каля 600 юных жыхароў рэспублікі адпачылі ў гэтым годзе ў Германіі, Аўстрыі, Італіі, іншых краінах свету. Акрамя таго, у БелТД з'явіўся і новы партнёр у гэтай высакароднай справе — гуманітарны фонд "Дапамога Эрыка" (Швецыя), які прыняў сёлета на рэабілітацыю 73 хворых дзяцей.

Наладжваюцца новыя сувязі, з'яўляюцца новыя партнёры, і як вынік — большая колькасць беларусаў зможа паправіць сваё здароўе за мяжой. І хоць у сувязі з вайной ў Югаславіі многія краіны "пераарыентаваліся" на дапамогу югаслаўскім дзецям, у БелТД спадзяюцца, што ў хуткім часе за мяжу змогуць выязджаць да 1 000 і больш беларускіх дзяцей, прычым асаблівая ўвага будзе надавацца прынцыпу сацыяльнай справядлівасці. Гэта значыць, што роўныя магчымасці для аздараўлення за мяжой будуць мець як жыхары Мінска і абласных цэнтраў, так і дзеці з самых маленькіх гарадоў і вёсак рэспублікі.

Абмяркоўваўся на прэзідыуме і план мерапрыемстваў, прысвечаных 50-годдзю ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. З гэтай нагоды сярод больш чым дваццаці ВНУ нашай рэспублікі быў праведзены конкурс студэнцкіх работ, у якіх асвятляліся самыя розныя аспекты кітайскай культуры, беларуска-кітайскіх узаемаадносін; цэлую мастацкую галерэю ўтварылі дзіцячыя малюнкі, прысланыя на конкурс "Кітай вачыма беларускіх дзяцей". Акрамя таго, юбілейная праграма ўключае ў сябе і правядзенне разнастайных вікторын, выстаў, святочных канцэртаў, дэманстрацыю кітайскіх кінастужак. Такім чынам, амаль месяц госцем нашай сталіцы будзе самабытная і чароўная кітайская культура, што прынясе сапраўдную асалоду яе аматарам і, спадзяемся, пасадзейнічае збліжэнню нашых народаў.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**КОНКУРСЫ**





## «ЛЕСАРУБ-99»

НАД ТАКОЙ назвай у рэспубліцы прайшоў чарговы традыцыйны чэмпіянат работнікаў лясной гаспадаркі.

З раніцы каля Лагойскага лясгаса было ажыўлена. Прыбывалі ўсё новыя і новыя машыны з людзьмі. Прычына падобнай з'явы была больш чым сур'ёзная. Тут пачынаўся чэмпіянат-99, на які сабраліся лепшыя з лепшых лесарубаў Беларусі, што прайшлі праз адборачныя конкурсы абласных спаборніцтваў. Сярод іх і тры лідэры папярэдняга чэмпіянату — Андрэй Сямёнаў з Асіповіцкага лясгаса, які прадстаўляў Магілёўскае вытворчае лесагаспадарчае аб'яднанне, Валерый Фірсаў — Гродзенскае аб'яднанне і Анатоль Палуяновіч — Брэсцкае. Яны летась прынялі ўдзел у XXIII Сусветным чэмпіянаце лесарубаў, які праходзіў у Аўстрыі, тым самым "прарубіўшы акно" ў Еўропу нашым майстрам. Цяпер пераможцы гэтых спаборніцтваў адпраўляцца на чарговы сусветны чэмпіянат, які плануецца правесці ў Нарвегіі ў 2000 годзе.

Але гэта наперадзе, а пакуль першы этап — валка дрэў, самы асноўны ў працэсе спаборніцтваў, ён прыносіць удзельніку найбольшую колькасць ачкоў. У гэтым раздзеле на чэмпіянаце ў Аўстрыі пераможцам стаў галандзец Джон ван Кампен, які набраў 657 ачкоў. А хто ж стане лідэрам у гэтым раздзеле на беларускім нацыянальным чэмпіянаце? Гэта вызначаць суддзі, якія старанна фіксуюць усе дзеянні ўдзельнікаў спаборніцтва, дэталёва вывучаюць якасць пілавання дрэў і старанна падлічваюць секунды, затрачаныя лесарубамі на валку дрэў.

Блізіцца да канца першы дзень спаборніцтваў. На стэндзе з прозвішчамі ўдзельнікаў усё менш пустых клетак, куды суддзі ўносяць колькасць заробленых ачкоў, усё ясней вызначаецца расклад лідэраў. І вось фініш — пераможцам першага дня стаў Андрэй Сямёнаў, які набраў 642 ачкі. За ім ідзе Аляксандр Капцюг (612 ачкоў, Мінскае аб'яднанне) і трэці Мікалай Сельчукоў (Віцебскае аб'яднанне).

Наступным днём спаборніцтвы з лясной цішыні перамясціліся на сталічны стадыён "Лакаматыў". Гледачы, што сабраліся на пакуль яшчэ незвычайнае для іх відовішча, таму што гэта было ўпершыню ў горадзе, засталіся цалкам задаволенымі. Дынамічныя, захапляючыя этапы спаборніцтваў — хуткасная абрэзка сукоў, мантаж бензапілы, дакладная і камбінаваная распілоўка бярвенняў нікога не пакінулі раўнадушнымі.

І вось апошнія ўдзельнікі спаборніцтваў выключаюць свае пілы, і суддзі падводзяць вынікі. Хто падніміцца на п'едэстал гонару? Пасля нарады судзейскай калегіі гучыць імя пераможцы. Чэмпіёнам зноў становіцца непераможны Андрэй Сямёнаў, які набраў 1 327 ачкоў. Для параўнання — абсалютны пераможца аўстрыйскага чэмпіянату Джон ван Кампен выйграў яго з паказчыкам 1 558 ачкоў. Параўнаўшы, можна смела сказаць: не так дрэнна для нашага хлопца. А калі да гэтага дадаць і тое, што пры мантажы пілы ён толькі на секунду ўступіў сусветнаму дасягненню 14,9 секунды, што належыць аўстрыйцу Гансу Ранеру, то гэта проста выдатна.

Рэкардсмену, натуральна, лаўровы вянок, віншаванні і каштоўныя прызы. Прадстаўнік жа нямецкай фірмы "Штыль", бензапіламі якой карысталіся ўсе ўдзельнікі чэмпіянату, паднёс Андрэю зусім арыгінальны падарунак — бензакасу і жартам пажадаў, каб у наступным годзе ў рэспубліцы прайшоў чэмпіянат касцоў. Што ж — выдатная перспектыва для сапраўдных мужчын.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**



**НА ЗДЫМКАХ: пераможца чэмпіянату "Лесаруб-99" Андрэй СЯМЁНАЎ; вось так даводзіцца працаваць вальшчыку лесу; адзін з этапаў спаборніцтваў — камбінаваная распілоўка.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**ВЫСТАВЫ**




Больш за 200 прадпрыемстваў і фірм блізкага і далёкага замежжа — Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Даніі, Ірландыі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Швецыі, Расіі, Фінляндыі і Беларусі прынялі ўдзел у выставе "Будпрагрэс-99".

Трынаццаць раздзелаў экспазіцыі прадставілі самыя сучасныя тэхналогіі ў будаўніцтве, абсталяванні для будынкаў, высокаэфектыўныя будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі.

**Фота БелТА.**

**МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ**

### НОВЫ ПУНКТ ПАГРАНІЧНАГА КАНТРОЛЮ

На латвійска-беларускай мяжы адбылося афіцыйнае адкрыццё новага пункта пагранічнага кантролю (ППК) "Патэрніекі".

З латвійскага боку ў цырымоніі адкрыцця прымалі ўдзел міністр фінансаў Латвіі Э. Красціньш, міністр унутраных спраў М. Сегліньш, генеральны дырэктар Службы дзяржаўных даходаў А. Сончыкс, дырэктар галоўнага мытнага ўпраўлення А. Красціньш, з беларускага — міністр фінансаў М. Корбут, намеснік начальніка Мытнага камітэта В. Гошын, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Латвійскай Рэспубліцы М. Марыніч.

Міністры фінансаў Беларусі і Латвіі падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве паміж міністэрствамі фінансаў дзвюх краін. Пагадненнем прадугледжваецца правядзенне кансультацый па пытаннях бюджэту і фінансаў, свабоднага гандлю, падатковай сістэмы і рынку каштоўных папер. Акрамя таго, данае пагадненне будзе заахвочваць супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў па мытных пытаннях, удзяляючы асобую ўвагу кантролю над транзітам.

### ГЕРБЕРТ ШНОАР УЗНАГАРОДЖАНЫ ОРДЭНАМ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Кіраўнік дабрачыннай арганізацыі "Дапамога дзіцячай клініцы горада Мінска" грамадзянін Федэратыўнай Рэспублікі Германія Герберт Шноар узнагароджаны ордэнам Францішка Скарыны. Гэтай высокай узнагароды ён удастоены за актыўную дабрачынную дзейнасць, значны ўклад у забеспячэнне фінансавання і аснашчэння дзіцячага хірургічнага цэнтра 1-й гарадской клінічнай бальніцы горада Мінска.

### СПАДАБАЛАСЯ Ў РАЎБІЧАХ

Кіраўнік Міжнароднага саюза біятлона Андэрс Бесеберг, які знаходзіўся ў Мінску ў сувязі з правядзеннем IV чэмпіянату свету па летняму біятлону, адзначыў, што комплекс у Раўбічах можа стаць адной з лепшых арэн у свеце, ён высока ацаніў тыя намаганні, якія робіць Беларусь для развіцця спорту ўвогуле і біятлона ў прыватнасці. Гэта садзейнічае высокім вынікам беларускіх спартсменаў.

**НАПЯРЭДАДНІ**

### КУПАЛАЎЦЫ РЫХТУЮЦЦА ДА ЮБІЛЕЮ

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы пачаў падрыхтоўку да 80-годдзя з дня заснавання. У планах тэатра — гастролі па абласцях нашай краіны, якія пройдуць пад эгідай Міністэрства культуры. Гледачы змогуць убачыць "Ідылію" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна, дывертысмент "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча", "Піраміду Хеопса" па п'есе Юрыя Ломаўцава з Санкт-Пецярбурга і прэм'еру "Смак яблыка" па твору беларускага драматурга Анатоля Дзялендзіка. Запланаваны таксама творчыя сустрэчы акцёраў з іх паклоннікамі ў многіх мясцінах Беларусі.

**60 ГОД УЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ**

# ЯК ГЭТА БЫЛО?

**Сярэдняя Літва.** Асоба генерала Люцыяна Жэлігоўскага, галоўнага стваральніка Сярэдняй Літвы, прыцягвае ўвагу. Нарадзіўся ён на Ашмяншчыне ў шляхетнай сям'і. Зрабіў бліскучую ваенную кар'еру ў расійскай арміі. Удзельнік руска-японскай вайны. Першую сусветную пачаў у рангу падпалкоўніка. Ужо ў гэты час ён удзельнічаў у польскіх патрыятычных арганізацыях. Пазней, у канцы 1917 года, Жэлігоўскі — адзін са стваральнікаў асобага польскага войска на тэрыторыі Расіі. Ён атрымлівае званне генерал-маёра і ўзначальвае адну з дывізій Першага польскага асобага корпуса. Асабісты сябар Юзэфа Пілсудскага, ён быў адным з галоўных арганізатараў перавароту 1926 года.

Вільня захоплена. Ідзе інтэнсіўная падрыхтоўка да аб'яднання рэспублікі Сярэдняя Літва. А што ж Ліга нацый? Абараніць Вільню яна магла толькі гучнымі пратэстамі. Не магла дапамагчы Літве і Чырвоная Армія: у гэты час польскія войскі падыходзілі да Мінска, на поўдні ішлі рашаючыя баі з Врангелем. Так што жыхары вышэйназваных паветаў прачнуліся раніцай 12 кастрычніка ў "незалеж-

**Працяг.**
**Пачатак у № 38—39.**



ЗДАРЭННІ

## АРСЕНАЛ У КВАТЭРЫ

Літаральна на парахавой бочцы сядзелі жыхары аднаго з шматпавярховых дамоў па вуліцы Савецкай у Гомелі. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку забралі з кватэры жанчыны, якая жыла тут, 77 шашак выбуховага рэчыва, падобнага на аманал, агульнай вагой 14 кілаграмаў, 16 сігнальных патронаў і 22 пласціны выбуховага прызначэння. Спецыялісты паведамілі, што любое неасцярожнае абыходжанне з гэтымі прадметамі, не гаворачы ўжо аб дыверсіі, магло прывесці да трагічных вынікаў.

## АВІЯБОМБА АБЯСШКОДЖАНА

Пры правядзенні земляных работ недалёка ад вёскі Зубрэвічы Аршанскага раёна мясцовыя жыхары выявілі небяспечную знаходку — 250-кілаграмовую авіябомбу. Боепрыпас ляжаў у зямлі з часу другой сусветнай вайны. Сапёры вывезлі яго ў бяспечнае месца і абясшкодзілі. На жаль, падобныя знаходкі ўсё яшчэ не рэдкасць на беларускай зямлі.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## 22 СМЯРОТНЫЯ ПРЫГАВОРЫ

З пачатку года ў Беларусі прыведзены ў выкананне 22 смяротныя прыгаворы, паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску генеральны пракурор рэспублікі Алег Бажэлка. Ён напомніў, што летась у Беларусі вышэйшая мера пакарання была прыменена ў адносінах да 38 асуджаных. За 7 месяцаў бягучага года да пажыццёвага зняволення ў Беларусі прыгаворана 16 чалавек, якія адбываюць пакаранне ў адзінай на тэрыторыі рэспублікі ўстанове для данага кантынгенту асуджаных, якая знаходзіцца на тэрыторыі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Адказваючы на пытанне аб ходзе следства па крымінальнай справе, узбуджанай у адносінах да экс-прэм'ер-міністра рэспублікі Міхаіла Чыгіра, які падазраецца ва ўчыненні злачынстваў эканамічнага характару, А. Бажэлка заявіў, што з боку падследчага пакуль не назіраецца жадання "актыўна супрацоўнічаць са следствам". Па словах генпракурора, не было адзначана і спроб вярнуць сродкі, выдадзеныя Чыгіром у выглядзе валютных крэдытаў і не вернутыя ў банк у той час, калі М. Чыгір з'яўляўся старшынёй праўлення "Белаграпрамбанка". А. Бажэлка таксама паведаміў, што М. Чыгір не адзіны ў рэспубліцы банкір, які падазраецца ў падобных злачынствах.

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ДЗЁННІК

# РОЗДУМ ЛЯ МАГІЛЫ

● Арсен САКУН.

*Прысвячаю свайму бацьку Андрэю.*

Яго, нябожчыка, у нас нібы ўкралі. Жыў чалавек, лічы, ніколі сур'ёзна не хварэў, ні разу за свае 77 не трымаў у руках лістка непрацаздольнасці. Як любіў звычайна шуткаваць ён, хварэць проста не было калі. Ад прыроды ён такі моцны, здароўем матухна-прырода яго не пакрыўдзіла, відаць, прадбачыла, колькі давядзецца яму папрацаваць на сваім вяку. У дваццаць шэсць паставіла майго бацьку ў строй байцоў Вялікая Айчынная, дарогамі якой прайшоў ад званка да званка. Памятаю, як, пасадзіўшы ўсіх шасцярых нас, сваіх дзяцей, за стол, расказваў ён вечарамі пра тыя самотныя гады. Мы слухалі яго і радаваліся ў душы, які ў нас бацька — смелы, мужны, нязломны. Так хацелася самому стаць падобным на яго. А падрастаючы, заўважыў, які бацька здатны да ўсяго, колькі ў яго было ўсялякага інструменту і прылад. Сваімі рукамі майстраваў усё па гаспадарцы: разнастайныя бочкі і бочачкі, кадушкі і канапы, полкі і паліцы, ложкі і рамы, дзверы і скрыні. І цясляраў. Ды як! Ідучы вуліцамі сваіх родных Губарэвічаў, я любіў лічыць дамы, на вугле якіх падчас будаўніцтва сядзеў мой бацька. А іх там шмат. Ды і ў навакольных вёсках нямала, куды забіралі нашага бацьку матацыкламі, машынамі і падводамі. Быў час, калі вёскі моцна адбудоўваліся. Хтосьці будаваў новую хату, хтосьці пашыраў старую, і такія спецыялісты былі на вагу золата. Мала калі мы бачылі свайго бацьку, каб ён адпачываў. Увесь час нешта рабіў, чымсьці быў заняты. Дзверы нашай хаты былі расчынены для ўсіх, і людзі прыходзілі больш усяго за парадамі. І якім бы занятым ні быў наш бацька, ён ніколі ні ў чым нікому не адмовіў. Падчас маці бурчэла на яго за гэта, маўляў, сваё кідаеш, а ідзеш да людзей. А ён быў настолькі цярплівы і моцны, што хістае галавою перад маці і ні слова не скажа — пойдзе дапаможа суседу і сваё паспее зрабіць…

Мой расповед пра роднага бацьку — не даніна адышоўшаму ад жыцця чалавеку, калі пра нябожчыка дрэннага не гавораць. Я пішу так пра яго не таму, што ён мой бацька і такі добры і мілы мне. Пра ўсё гэта і многае, чаго тут няма, я згадваў, стоячы ля яго магілы. Падчас таго я не верыў, і душа не прымала, што гэта ўсё, гэта канец, больш мы не пабачымся, не станем насупраць адзін аднаго, не абдымемся, як бывала — з аднаго боку па-бацькоўску моцна і шчыра, з другога — па-сыноўску нерашуча, але з верай. А здарылася так, што ўсёй сям'ёй сваёй прыехаў я да роднага бацькі на ўваходзіны ў новую кватэру ў Брэст. Як чарнобыльскі выгнаннік, ён атрымаў яе па абавязковаму адсяленню. Да гэтага пяць гадоў пражыў на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі са сваёй нязменнай спадарожніцай Сашай — нашай маці, па савецкім часе маці-гераіняй, нарадзіўшай і паставіўшай на ногі нас, шасцярых, двое з якіх прыйшлі на свет разам пад нумарам пяць і шэсць.

Уваходзінаў не атрымалася, бо бацька настолькі здаў, што мы яго ледзь пазнавалі. Здаў, але трымаўся. Трэба было бачыць па тым часе яго, каб зразумець усю трагедыю лёсу, здавалася, нязломнага чалавека. Нязломнага ў сэнсе лёсу і жыцця. І першае і другое давалі яму толькі адну прывілею — працаваць без стомы, без выхадных, без спачыну. І ён так сумленна з гэтым спраўляўся, што нельга было не зайздросціць. Бадай, першы раз я ў той прыезд на яго гарадскія ўваходзіны адчуў і ўбачыў такія непрымальныя маёй сутнасці змены ў паводзінах бацькі. Першы раз ён не падняўся з ложка насустрач нам. Першы раз на яго вачах я бачыў слёзы. І мае вочы заплылі імі, бо ў роднай істоце засталася толькі палова бацькі. Схуднелыя рукі дрыготна цягнуліся да нас, але не мелі яны ўжо таго поціску і цяпла, уласцівага ім спрадвеку. Здала і маці, з месяц пасядзеўшы ля яго. Як і нам, ёй нязвыкла было бачыць бацьку хворага. Адышоўшы ўбок, яна шаптала, што гэта яго апошнія дзянькі, урачы прызналі хваробу веку — рак. "Божухна, адкуль на яго гэта? За што?" — крычалі душа і пачуцці. Крычалі і не згаджаліся. Крычалі і малілі таго ж Госпада за такі несправядлівы зыход…

Першы раз за сваё жыццё ў той дзень бацька не сам пагаліўся і не сам памыўся. Першы раз ён з намі не сеў павячэраць. Першы раз не пагаварыў з намі. Ні ў той дзень, ні назаўтра. Адзінае, пра што папрасіў, каб не марнавалі час, а ехалі дамоў, нібы таму, што яму стала лепей.

Моцныя духам людзі не хочуць спачування — у тым іх і моц. Не бачыў роспачы ў той момант у свайго бацькі і я. Яго слова было заўсёды законам у сям'і. І не таму, што ён яе галава, а таму, што ён — яе аўтарытэт. А калі такія людзі пакідаюць нас, мы проста губляемся, мы адключаемся, мы проста становімся не самі сабою.

… Назаўтра бацька памёр. Бог адняў у мяне таго, кім я жыў усе свае гады, па кім будаваў сваё жыццё. Адняў раптоўна і назаўсёды. Адняў, не спытаўшы, хачу я гэтага ці не, паспелі мы зрабіць разам тое, пра што дамаўляліся, ці не. Змагу я адзін без яго ці не?

Пытанні, пытанні, пытанні. Стоячы ля магілы свайго бацькі, я шукаў адказу не толькі на тыя, якія назваў вышэй. Даймала мяне іншае — лёс чарнобыльцаў, усіх, хто патрапіў пад гэты статус.

І калі раней думалася, што радыяцыя даймае толькі слабых, то цяпер мае погляды крута змяніліся. У памяці не фрагментарна, а сістэмна ўваскрэсла трагедыя лёсу ўсіх гэтых людзей. Кадр за кадрам пракруціліся тут, ля магілы роднага бацькі, моманты лёсу многіх маіх землякоў — тых, хто заставаўся жыць у небяспечнай зоне, і тых, хто ад'ехаў далей ад яе. Моцныя ніці зямляцтва трымаюць усіх у ранейшай, гадамі сфарміраванай суполцы. Людзі тыя нібы і паасобку, і далёка адзін ад аднаго, але ж усе ведаюць пра жыццё і тут, і там. А весткі як з аднаго боку, так і з другога несуцяшальныя. Пры сустрэчах з імі толькі і чуеш, што той памёр, а другі моцна хварэе, трэці, не вытрымаўшы псіхалагічнай нагрузкі перасялення, наклаў на сябе рукі. А нехта ў роспачы співаецца. І гэта сёння, калі ўсе на мяжы выжывання; калі канцы з канцамі не сходзяцца; калі большасць люду амаль не можа сысціся па-людску, а калі сходзіцца, то не ведае, пра што спытаць, бо звычайнае "як жывеш?" сёння не падыходзіць, а так званых зносін рынкавага характару пакуль нашы людзі не засвоілі і наўрад ці калі змогуць, бо пакаленні, на чыю долю выпаў гэты ліхі час, не прымаюць іх ні душой, ні сэрцам.

Бясспрэчна, людзі нашы цягавітыя, здольныя і працавітыя. Але ж колькі можна выпрабоўваць іх кіраўніцкай нераспарадчасцю?

Стоячы ля магілы свайго бацькі-нябожчыка, я пракручваю ў памяці горкія кадры суровай рэальнасці: колькі памятаю з гісторыі і свайго жыцця, столькі і дурылі наш просты люд усялякага роду прайдзісветы ад улады. Ніколі яны не далі яму распрастацца, моцна абаперціся на сваёй роднай зямельцы, душылі рэформамі, падаткамі, войнамі, лагерамі, працай. Нічога, апрача гэтага, не бачыў і мой бацька — як і многія з таго пакалення.

На долю нас, пасляваенных, нешта ад шчасця выпала, але ненадоўга, хаця на нас ніхто не напаў з вайной. Атрымліваецца, што самі ўскочылі ў так званыя рэформы. З людзьмі ніхто не працуе, іх цяпер ніхто нікуды не вядзе і не заклікае, апроч хіба таго, каб яны яшчэ пратрывалі ў цярпенні. Ніхто сёння не скажа, у якой дзяржаве мы жывём, якое грамадства будуем, што з намі будзе заўтра, гадампяццю наперад.

Думалася мне і аб тым, чаму з пакалення ў пакаленне мы, беларусы, такія падатлівыя, даверлівыя, купіць і прадаць нас нічога не каштуе. Так было, так ёсць, бо нараджаем мы такое становішча сваім цярпеннем, празмернай даверлівасцю, несур'ёзнасцю ў адносінах да тых жа выбараў, падчас якіх спрацоўвае не здаровы сэнс, не ўласнае перакананне, а чыесьці карыслівыя намеры і памкненні.

…Некаму можа паказацца недарэчным мой роздум ля магілы нябожчыка-бацькі. Але хіба ж можна маўчаць пра тое, што баліць і вярэдзіць табе душу?




*Кіраўнікі і прадстаўнікі дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь, наведалі раёны, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Асноўная мэта паездкі — паказаць рэальную сітуацыю на забруджаных тэрыторыях Беларусі. Дыпламаты наведалі Брагінскі, Хойніцкі, Мазырскі раёны.*

*НА ЗДЫМКУ: дыпламаты ў адселенай вёсцы Бабчын.*

# ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

най суверэннай дзяржаве Сярэдняя Літва". Дэкрэтам Жэлігоўскага было аб'яўлена аб падрыхтоўцы выбараў у сейм, а таксама склад часовага ўрада. У яго ўвайшла значная група і ўплывовых беларускіх дзеячаў, якія паверылі абяцанням, што гэта будзе раўнапраўная польска-беларуская дзяржава, у якой для адраджэння беларускай нацыі будуць створаны ўсе ўмовы. Браніслаў Тарашкевіч стаў кіраваць беларускім сектарам ў дэпартаменце асветы, Вацлаў Іваноўскі ўзначаліў дэпартамент гандлю, Вячаслаў Багдановіч — дэпартамент транспарту. Але ілюзіі хутка развеяліся. Пасля падпісання ў сакавіку 1921 года Рыжскага дагавора, па якому да Польшчы адышлі заходнія землі Беларусі і Украіны, улады Сярэдняй Літвы ўзялі курс на далучэнне да Польскай дзяржавы. Каб надаць усяму гэтаму бачнасць законнасці, у студзені 1922 года былі праведзены выбары ў сейм, пераважную большасць у якім атрымалі палякі. 20 лютага 1922 года сейм прымае рашэнне аб далучэнні Сярэдняй Літвы да Польшчы. Праз год пасля рыжскага падзелу земель да "ўсходніх ускраін" Польскай дзяржавы дабавілася Віленскае ваяводства.

**18 гадоў "за польскім часам".** Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора і далучэння Сярэдняй Літвы анексіраваныя беларускія землі былі падзелены на 4 ваяводствы: Палескае, Навагрудскае, Віленскае і Беластоцкае. Галоўным культурным і навуковым цэнтрам Заходняй Беларусі была Вільня, прамысловым — Беластоцкі прамысловы раён. Уласна кажучы, у эканамічных адносінах Заходняя Беларусь стала аграрнай ускраінай Польшчы і выкарыстоўвалася пераважна як крыніца сыравіны і таннай рабочай сілы. Разбураная войнамі прамысловасць узнаўлялася марудна, новыя ж прадпрыемствы амаль не будаваліся. 80 працэнтаў насельніцтва займаліся сельскай гаспадаркай. Буйных землеўладальнікаў сярод беларусаў не было, але агульны ўзровень развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці быў даволі высокім. У 1920-х — 1930-х гадах Польшча правяла зямельную рэформу, увяла хутарскую сістэму. 70 працэнтаў сялянскіх гаспадарак рассялілі на хутары. Ужо да 30-х гадоў прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі значна ўзрасла — ураджайнасць многіх культур была нават вышэйшай, чым у ЗША.

Што ж тычыцца грамадскага, культурнага, духоўнага жыцця, то, згодна з 7-м артыкулам Рыжскага дагавора, беларусам, як і іншым нацыянальным меншасцям у Польшчы, павінны былі быць забяспечаны роўныя з палякамі правы ў палітычным жыцці, развіцці сваёй культуры, мовы, у веравызнанні. Шматлікія правы і свабоды нацыянальным меншасцям абяцала і Канстытуцыя Польшчы, і Закон аб мовах, прыняты ў 1924 годзе. Але на практыцы польскія ўлады з самага пачатку павялі жорсткі курс на апалячванне насельніцтва. З гэтай мэтай беларускія землі актыўна засяляліся так званымі асаднікамі — палякамі, якія атрымлівалі тут бясплатна зямельныя надзелы. Пустым гукам аказалася самакіраванне ў беларускіх ваяводствах. Самыя важныя пасады ў мясцовых органах самакіравання не былі выбарнымі. Назначэнне на іх праводзіў стараста, прысланы ўладамі, як правіла, з заходніх раёнаў Польшчы. Ён не ведаў беларускай мовы і не збіраўся яе вывучаць. Не збіраліся вучыць беларускай мове і ў школах. Пачаўся масавы перавод выкладання на польскую.

**Святлана ЖЫДКАЯ**, БелТА.

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# ВАКЕНЦА ЧЫСЦІНІ

## З пісьменніцкага дзённіка

**...12 кастрычніка 1998 года ў калісьці стольным, а цяпер проста ў Санкт-Пецярбургу спраўлялі паніхіду па айцу Матусевічу, шчыраму прыхільніку беларушчыны... Запамінальны знешне і незвычайнай — што біла праз край — энергіяй, ён заўжды выклікаў сімпатыю не толькі ў вернікаў, але і ў тых, хто не меў асаблівых стасункаў з Госпадам Богам. І найперш — сваімі чыста чалавечымі якасцямі. Я не сутыкаўся з ім блізка, бо хоць і нехрышчоны, але светаўспрымання праваслаўнага. Нашы інтарэсы супадалі мо толькі ў тым, як мы разумелі некаторыя аспекты сучаснага жыцця, хаця ішлі да ажыццяўлення гэтых інтарэсаў зусім рознымі, калі не сказаць, процілеглымі шляхамі. Я ставіўся да яго з прыкметнай доляй прыязнасці, адчуваючы непадробную (сапраўды ўласцівую яму) неабыякавасць да ўсяго, што адбываецца на ніве адраджэння Беларусі...**

**І калі я дачуўся, што ён памёр і што ў Саборы Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі на Чырвонаармейскай, 11, адбудзецца паніхіда па гэтым неардынарным чалавеку, то адклаў убок усе пільныя справы і накіраваўся туды.**

Папярэдняя служба трохі зацягнулася, і я паспеў перамовіцца з Сяргеем Сурыновічам, семінарыстам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу "Марыя — Каралева Апосталаў". Сяргей даўно ўжо займаецца падрыхтоўкай святой імшы на беларускай мове і адначасова ёсць галоўным рэдактарам культурна-рэлігійнага часопіса "Крыніца", выданне якога адноўлена на берагах Нявы і ўжо атрымала розгалас у многіх кутках Беларусі і за яе межамі.

Службу вёў апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Паніхіда праводзілася адпаведна царкоўным канонам, але, як заўсёды, у яе выпрацаваны вякамі парадак уплятаўся чалавечы фактар, і гэта рабіла службу сапраўды жывою дзеяю.

Адной з гэткіх нечаканасцей, прынамсі для мяне, была прысутнасць і непасрэдны ўдзел у службе Вячаслава Пялінка, маладога хлопца з Віцебшчыны — студэнта тэалогіі Люблінскага каталіцкага універсітэта, брата Ордэна Марыянаў.

Спачатку ён падаўся мне трохі сухаватым, мо праз выключную засяроджанасць на ледзь улоўных і не заўсёды зразумелых недасведчанаму воку асаблівасцях службы, а мо праз тое, што вызначаўся ледзь не юначай хударлявасцю ды яшчэ тым, як прыдзірліва разглядваў ён ці не кожнага з нас. Магчыма, у гэтым выяўлялася своеасаблівае пачуццё да нас студэнта тэалогіі, які мае большае маральнае права знаходзіцца тут, каб выказаць даніну павагі заўчасна памёрламу святару і мо нават настаўніку па веры.

Аздобаю кананічнай службы быў спеў у выкананні прысутных, сярод якіх сваім прафесіяналізмам вылучаўся сябра беларускай суполкі, спявак Лявон Габрусёнак. Дык вось якраз на яго і быў скіраваны спачатку той раўнівы позірк маладога марыяніна. Але калі брат Вячаслаў пераканаўся, што спадар Лявон прыйшоў на службу не дзеля таго, каб яшчэ раз і з поспехам бліснуць сваім талентам, а аддаць належнае чалавеку веры, Вячаслаў забыўся на сваю рэўнасць і цалкам аддаўся спеву.

Ён стаяў да мяне бокам, гэтаксама, як і Сяргей Сурыновіч, якога я ведаў яшчэ з мінулай вясны, калі мы пазнаёміліся з ім у Левашоўскай пустцы, дзе ў 1992 годзе намаганнямі беларускай і літоўскай суполак быў усталяваны першы на той час Памятны крыж на месцы масавых расстрэлаў жыхароў Пецярбурга і вобласці паходжаннем з Беларусі, Літвы, Польшчы, якіх абвінавачвалі ў шпіёнстве супраць савецкай улады. Левашова ў Піцеры — гэта тое самае, што Курапаты ў Мінску...

Сяргей Сурыновіч далучыўся да ўшанавання бязвінных ахвяраў значна пазней. Але адразу зрабіўся сваім сярод нас, неадменна чытаў ля Крыжа малітву на нашай роднай, матчынай мове, і адчуваўся ў гэтым не проста абавязак, а шчырая зацікаўленасць не толькі ў жыцці беларускага асяродка, але і клопат сейбіта, які не павінен кідаць без нагляду засеянае ім поле. Да таго ж ён аказаўся яшчэ і паэтам, што выклікала ў мяне асаблівы давер. Паэт не можа маніць, інačай ён не паэт. Тых, хто піша прозу або вершы — менавіта пабеларуску, — іх так мала ў Піцеры, што міжволі хапаешся за любую магчымасць пашырыць гэтае кола, і таму я не губляў спадара Сяргея з поля зроку і штораз адгукаўся на ягоныя прапановы сустрэцца, каб абмеркаваць тое ці іншае пытанне, звязанае з выданнем часопіса "Крыніца", або ўдзелам у падрыхтоўцы перадач беларускамоўнага радыё "Марыя", створанага па ініцыятыве таго ж Сурыновіча.

Сяргей стаяў побач з Лявонам Габрусёнкам і таксама ў профіль да мяне, як і марыянін Вячаслаў. Але якім розным быў спеў гэтых трох людзей. Лявон Габрусёнак сачыў найперш за тым, каб выкананне было прафесійным. А здольнасцяў у яго не адымеш! Сяргей Сурыновіч спяваў так, як дазвалялі ягоныя вакальныя даныя... Ён укладаў у выкананне ўсю сваю сумленнасць і шчырасць, але гэта быў... каб тут не памыліцца... хутчэй, проста спеў, які чымся звышасаблівым не вылучаўся... Сказанае не павінна крыўдзіць спадара Сяргея, бо чалавек мае, што яму дадзена. У гэтым таксама ёсць свой сэнс, магчыма, пакуль невядомы нам, але які зусім неабавязкова спасцігаць неадкладна: ён вызначыцца ў пэўны час, сам сабой і без нашага ўдзелу.

На фоне гэтых — справядліва, што чыста суб'ектыўных — адчуванняў нейкім незвычайным кантрастам падаўся мне спеў трэцяга ўдзельніка — Вячаслава. Выдатная акустыка касцёла, рэстаўрацыя якога завяршылася ў 1996 годзе (пабудаваны на пачатку XVIII стагоддзя), як найлепей падкрэслівала асаблівасці голасу і выканання... Спеў ляцеў кудысь угору... да Бога... да Святой Марыі,.. але твар таго, хто спяваў, заставаўся тут, на зямлі, і гэты твар можна было бачыць. І нельга было не захапіцца ім.

Папярэдне заўважаная сухаватасць — правільней штось блізкае да аскетызму — аказалася ў сапраўднасці шчырай непадробнай верай... Памятаю сваё першае і пакуль што апошняе наведванне Домскага сабора ў Рызе... Толькі там зразумеў, што такое арган... Піцерскія — і ў кансерваторыі, і ў філармоніі — у параўнанні з ім... даруйце, няма слоў... У другім аддзяленні канцэрта выступала спявачка, не памятаю, на жаль, як імя і тое, што яна выконвала, але ўражанне ад яе спеву засталося і па сёння... Голас спявачкі быў такі чысты і лёгкі, што, здавалася, яна не прыкладала ніякіх намаганняў, калі спявала... Мне бачыўся ў той момант шырокі прасторны луг, поўны кветак, і маладая жанчына ішла па гэтым лузе і зрэдчас нахілялася, каб сабраць букет, спявала сярод гэтых кветак, сярод сонца, спявала ад шчасця, якое перапаўняла яе... Нікога ў лузе апроч яе — мо таму спеў так нязмушана вылятаў з грудзей... Гэта здараецца тады, калі спявае... душа... і калі спяваеш адно для сябе... Вось гэтак спяваў і Вячаслаў... Кудысьці далёка — як штось ужо непатрэбнае — сплыла заўсёдная сухаватасць, якая праяўлялася, пэўна, толькі на людзях — каб засцерагчы, не расцерушыць тое, чым жыла душа. Цяпер, калі ён прыняў нас, хавацца не было патрэбы, і ён цалкам аддаўся свайму пачуццю — сваёй размове з нябёсамі. У гэты момант ён якраз і размаўляў з Тым, у Што і ў Каго ён верыў... І шчырасць гэтай размовы ўражвала і прымушала схіліць галаву перад чысцінёю гэткай Веры... Мне здалося ў той момант, што калі я не скажу Вячаславу пра свае адчуванні, то пазбаўлю і яго, і сябе чагосьці патрэбнага нам абодвум. Я падышоў да яго пасля заканчэння службы і падзякаваў за шчырасць. Ён адказаў мне тым самым, мо толькі больш стрымана. Мы ўжо развіталіся, але раптам ён, быццам нешта ўспомніўшы, папрасіў мяне крышачку пачакаць, хутка, ледзь не подбегам, накіраваўся ў закрыстыю — службовы пакойчык — і, вярнуўшыся, паклаў мне на далоню штосьці маленькае...

— Гэта вам, — сказаў ён мне і заспяшаўся да архімандрыта Гаека, які ўжо чакаў ля выхаду...

Гэта была выява Маці Божай Фацімскай у выглядзе мініяцюрнага настольнага абразка... На цёмна-сінім, хутчэй фіялетавым фоне, які нагадваў чыстае — без хмараў — начное неба, самотна і светла, як праменьчык далёкага, што прыйшло невядома адкуль, святла, матава паблісквала выструненая срэбная постаць Святой Марыі... Светлы промнік чагосьці Высокага, Чыстага, Недасягальнага сярод пакутнай цемрадзі нашай імклівай ды супярэчлівай Сучаснасці... Мы ж так часта губляем... і так мала знаходзім... Тая выява і дагэтуль стаіць у мяне на палічцы перад пісьмовым сталом...

**Анатоль КІРВЕЛЬ,**
**член Саюза**
**беларускіх пісьменнікаў.**
г. Санкт-Пецярбург.

**РЭХА МІНУЛАГА**



Самы стары гадзіннік у Еўропе, які быў створаны больш як трыста гадоў назад, з анкерным механізмам англічаніна Вільяма Клімента, упрыгожвае вежу Фарнага касцёла ў Гродне. Пра ўсё гэта, вывучаючы гісторыю і механізм гадзінніка, даведаўся страсны краязнаўца і знаток гісторыі, дацэнт кафедры тэарэтычнай фізікі Гродзенскага універсітэта Аляксандр Мілюкевіч.

Два гады назад вежавы гадзіннік раптоўна спыніўся. Няўтульна стала гараджанам без звыклага перазвону, які адбіваў гадзіннік на вежы. І вось стараннямі краязнаўцы А. Мілюкевіча, гарадскіх уладаў, рабочых І. Ясюкевіча, С. Дарашкевіча, В. Гутніка гадзіннік зноў адлічвае час на рубяжы двух тысячагоддзяў.

**БелТА.**

# РЭЛІГІЙНА-ЦАРКОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

● **Ларыса ЯЗЫКОВІЧ**, *кандыдат гістарычных навук.*

У пачатку 1950-х гадоў у БАПЦ з'явіліся пэўныя магчымасці для наладжвання кантактаў з праваслаўнай царквой на Беларусі. Аб гэтым сведчыць візіт у Беларусь на пачатку 1992 года мітрапаліта БАПЦ Мікалая, які меў сустрэчы з грамадскасцю, вучонымі, культурнымі дзеячамі Беларусі, прадстаўнікамі праваслаўнай царквы, удзельнічаў у богаслужэннях, меў гутаркі з Патрыяршым экзархам Беларусі Філарэтам.

На эміграцыі, галоўным чынам у ЗША, дзейнічае таксама Беларуская праваслаўная царква Паўночнай Амерыкі, якая падпарадкоўваецца Канстанцінопальскаму патрыярху. Пачатак гэтай царквы быў закладзены ў Германіі ў лагерах для перамешчаных асоб беларускімі эмігрантамі, якія арыентаваліся на БЦР. У пачатку 1950-х гадоў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Англіі з'явіліся беларускія праваслаўныя прыходы, якія далучыліся да рэлігійнай юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха. Да канца 1960-х гэтыя прыходы дзейнічалі кожны самастойна і падлягалі паасобку юрысдыкцыі Канстанцінопальскай патрыярхіі. У сакавіку 1970 года ў Саўт-Рыверы (ЗША) адбыўся царкоўны з'езд, на якім прыходы ЗША і Канады аб'ядналіся і стварылі Раду Беларускай праваслаўнай царквы Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады. Зараз Беларуская праваслаўная царква Паўночнай Амерыкі — гэта самастойная епархія ў складзе Канстанцінопальскай патрыярхіі ў Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы. Унутраны распарадак царквы рэгламентуецца статутам, які быў прыняты на царкоўным з'ездзе ў 1980 годзе. Друкаваны орган — часопіс "Царкоўны светач", які выходзіць у ЗША з ліпеня 1951 года. Прыходы гэтай царквы існуюць у ЗША — прыход Святога Юр'я ў Чыкага (штат Ілінойс), Святога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіл (Нью-Йорк), Святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі). У 1970 годзе ў мястэчку Глен-Спэй (штат Нью-Йорк) быў створаны беларускі рэлігійна-адпачынкавы цэнтр Бэлер-Менск, у якім існуе праваслаўная капліца Смаленскай іконы Божай Маці Адзігітрыі. Цэнтр — маёмасць двух праваслаўных беларускіх прыходаў у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха — прыхода Святога Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіл і прыхода Святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы. У Канадзе ў Таронта дзейнічае прыход Святой Ефрасінні Полацкай. Беларускія прыходы, якія падлягаюць рэлігійнай юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха, ёсць таксама ў Англіі і Аўстраліі. У прыходах працавалі святары М. Лапіцкі, С. Коўш, А. Махнюк, У. Шамяціла, А. Сегень і інш. Адміністратарам (кіраўніком) беларускіх праваслаўных прыходаў у Амерыцы і Канадзе з 1970 года да 1976 быў айцец Мікалай Лапіцкі, якому ўвогуле належыць вядучая роля ў стварэнні гэтай царквы, а з 1977 года, пасля смерці М. Лапіцкага, айцец С. Коўш. Амаль штогод царквой выдаецца беларускі праваслаўны каляндар, аказваецца падтрымка ў выданні часопіса "Беларуская думка". Веруючыя царквы імкнуліся стварыць сваё беларускае вышэйшае царкоўнае кіраўніцтва, усталяваць беларускі епіскапат, на што была атрымана згода ад Канстанцінопальскага патрыярха. Але гэта пытанне не вырашана да нашых дзён.

Важную ролю ў духоўным жыцці нашых суайчыннікаў за мяжой адыгралі каталіцкія і грэка-каталіцкія рэлігійныя дзеячы — беларусы па паходжанню, якія імкнуліся аб'яднаць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння і хрысціянскія каштоўнасці. Беларуская рэлігійная літаратура на эміграцыі працяглы час існавала амаль выключна дзякуючы дзейнасці беларускага каталіцкага духавенства.

На працягу стагоддзяў касцёл дапамагаў паланізаваць беларусаў. Тое ж было і ў Заходняй Беларусі, якая апынулася ў складзе Польшчы пасля Рыжскага дагавора 1921 года. Але тут паступова вялася барацьба за беларускасць касцёла, магчымасць карыстацца ў набажэнствах беларускай мовай. Польскія ўлады ставіліся да гэтага адмоўна. Справы даходзілі нават да арыштаў ксяндзоў-беларусаў М. Пятроўскага, К. Стэповіча, В. Гадлеўскага і інш. Беларускіх святароў пераводзілі ў парафіі на польскія тэрыторыі альбо прымушалі выязджаць за мяжу. Такім чынам, многія каталіцкія ксяндзы-беларусы апынуліся ў 20-я—30-я гады на эміграцыі, у тым ліку ў ЗША. Аб стаўленні польскіх улад у міжваенны перыяд да нацыянальна свядомых беларускіх рэлігійных дзеячаў яскрава сведчыць факт разгону ў 1938 годзе кляштара айцоў-марыянаў (членаў каталіцкага манаскага ордэна) у Друі, а таксама закрыццё ў тым жа годзе Віленскага беларускага дому айцоў-марыянаў. Праз гэтыя асяродкі беларускага духоўнага адраджэння прайшлі такія вядомыя беларускія каталіцкія рэлігійныя дзеячы, як А. Цікота, Ф. Абрантовіч, Я. Германовіч, Я. Дашута, Ч. Сіповіч і інш. У далейшым многія з іх апынуліся ў краінах Заходняй Еўропы, а таксама ў ЗША.

Беларускія каталіцкія святары аказалі значны ўплыў на культуру ўвогуле і на літаратуру Заходняй Беларусі. Сярод іх Янка Быліна (Іван Семашкевіч), Вінцук Адважны (Язэп Германовіч), Адам Станкевіч, Казімір Сваяк (Кастусь Стэповіч) і інш. Сваёй рэлігійнай, а таксама патрыятычнай, культурна-асветніцкай, літаратурнай працай яны ўздзейнічалі на простых вернікаў-беларусаў, будзілі ў іх нацыянальную свядомасць. Гэтыя імёны былі таксама добра вядомыя сярод беларускіх эмігрантаў.

Важным этапам у гісторыі беларускай эміграцыі, у тым ліку і той, што адбывалася па рэлігійных прычынах, стала другая сусветная вайна.

**Працяг.**
**Пачатак у № 38-39.**



**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: АНГЛІЯ**

## АДБЫЎСЯ ГАДАВЫ З'ЕЗД

Агульны гадавы з'езд Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) адбыўся ў суботу 11 верасня. Пачаўся ён а 14-й гадзіне ў зале пры Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Парадак з'езда быў вызначаны паводле прапановы Галоўнай управы. Пасяджэнне адкрыла старшыня ўправы спадарыня Лёля Міхалюк і папрасіла айца Аляксандра Надсона пачаць малітваю за поспех з'езда.

У новую Галоўную ўправу ЗБВБ абраны: старшыня — Л. Міхалюк, намеснік старшыні — М. Дзейка, сакратар — І. Рабацэвіч, скарбнік — Гурло. Сябры ўправы — Сянько і Шаўцоў. Наглядная рада — Іваноў, Ражанец і Будкевіч.

Многа часу заняла дыскусія па цяперашніх палітычных і эканамічных падзеях, што адбываюцца ў Беларусі. Сябры запрасілі айца А. Надсона падзяліцца сваімі ўражаннямі ад апошняга яго знаходжання ў Беларусі.

З'езд закрыла новаабраная старшыня ЗБВБ спадарыняМіхалюк. Перад развітаннем прысутныя праспявалі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

## СВЯТКУЮЦЬ ПРАВАСЛАЎНЫЯ ВЕРНІКІ

5 верасня бягучага года праваслаўны прыход Жыровіцкай Божай Маці святкаваў 25-годдзе свайго існавання ў Вольвэргамтане. Служыў айцец Іскрыцкі ў саслужанні айца Сідаровіча і дыякана-англічаніна з Манчэстэрскай парафіі ў каталіцкім касцёле. Прыгожа і меладычна спяваў царкоўны хор. На службу прыехалі вернікі з Манчэстэра, Лондана, Бірмінгема, Ковентры. У канцы службы айцец Сідаровіч адправіў малебен за Беларусь і яе народ.

Прысутныя былі запрошаны арганізатарамі гадавіны А. Марочкам і У. Мядзёлкам на прыняццё ў недалёкі гатэль.

Мядзёлка падзякаваў прысутным за такі актыўны ўдзел у гадавіне і коратка нагадаў гісторыю прыходу. Праваслаўны прыход Жыровіцкай Божай маці пачаўся ў 1950 годзе ў Бірмінгеме, што ў сярэдняй Англіі. Спярша настаяцелем быў айцец А. Крыт. Пасля яго ад'езду ў Амерыку прыход наведваў айцец Я. Абабурка з Манчэстэра. Паколькі колькасць вернікаў у Бірмінгеме паменшылася, то з 1974 года службы пачалі адбывацца ў Вольвэргамтане. Пасля пасвячэння ў святарскі сан айцец Янка Пякарскі даглядаў прыход. А пасля смерці Янкі Пякарскага гэта рабіў айцец Абабурка, пакуль яму здароўе дазваляла.

Летась пасля пасвячэння ў святарскі сан айцец Аляксандр Сідаровіч пачаў наведваць прыход.

Спадар У. Мядзёлка падзякаваў А. Марочку за арганізацыю свята і ўручыў яму падарунак ад прыхаджан.

Ад прыходу айца А. Сідаровічу было перададзена 100 фунтаў стэрлінгаў на дзіцячы хоспіс у Мінску. Айцец Сідаровіч змог на гэты хоспіс сабраць ад прыходаў 600 фунтаў стэрлінгаў і перадаць гэтыя грошы ў Мінск.

**Сыльвэстар БУДКЕВІЧ.**

---

**ВІНШУЕМ!**

**Імя Іны Снарскай, якая ад пэўнага часу жыве на Украіне, у славутай з гісторыі і мастацкай літаратуры Палтаве, чытачам нашай газеты вядомае: у "Голасе Радзімы" друкаваліся творы беларускай паэткі і водгукі на іх нашых замежных чытачоў. Сёння ж ёсць удалая нагода павіншаваць зямлячку з сапраўды выдатнай перамогай на ніве тэлебачання, дзе наша беларусачка, якая для ўкраінцаў выступае наглядным увасабленнем лепшых жаночых якасцей братняга народа — гожае аблічча і вабны стан гарманічна паяднаны ў яе вобразе з прыгажосцю духоўнай. Пра гэту жыццёвую гармонію ў спалучанасці з арганічным для яе беларускім паэтычным словам можна гаварыць шмат і ўзнёсла. Але вымушаны сябе тут стрымаць, бо размова цяпер пра здольнасці прафесіянала на тэлебачанні. Гэта ж трэба: на салідным і прадстаўнічым міжнародным конкурсе наша Іна, узгадаваная старажытным Полацкам, здабывае Гран-пры. Поспех гэты, зразумела, не маглі не агучыць украінскія СМІ. Гаварылі, пісалі і паказвалі (розгалас, зусім магчыма, працягваецца і дасюль) узнёсла і захоплена. Пра ўсё не раскажаш і не перакажаш. Таму я і спыніўся на дзвюх публікацыях: "На фестывалі тэлепраграм палтаўцы зноў сталі лепшымі ("Вячэрняя Палтава") і "Каб я ўмела так любіць..." ("Палтаўская думка").**

# ГРАН-ПРЫ Іны СНАРСКАЙ

Казала Іне бабуля: "То ж так мала — 100 гадоў пражыць". Хто ведае? Напэўна мала, калі плача і радуецца сэрца ў грудзях, калі на світанні шчодрая зямля сваім родным дзецям даруе сілы на новы дзень. І так будзе заўтра і заўсёды, дакуль будзеш аддзячваць працай і шчырасцю свайму краю, дакуль будзеш спяваць яму песню. Простая і светлая таямніца...

Адкрывала тую таямніцу Іне Снарскай (па мужу Дзідык) беларуская зямля, што яе нарадзіла, дала талент, павяла ў людзі. Там скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут. Цяпер іншая, украінская, зямля стала роднаю, бо тут, у Палтаве, сустрэла сваю долю, нарадзіла сына.



Яшчэ шмат-шмат летаў і зімаў наперадзе, і на ўсе хопіць дзівасілу спрадвечных каранёў і бабусінай мудрасці, якую цяпер сэрцам асягае: без любові няма жыцця.

Сваю споведзь-пасвячэнне ў каханні да роднай зямлі і да той, якая яе прыняла, як родную дачку, Іна так і назвала — "Простая і светлая таямніца". У цітрах праплывае: "Беларусам Украіны прысвячаецца"...

* * *

За апошнія гады творчы калектыў тэлерадыёкампаніі "Лтава", падобна, узяў сабе за мэту не вяртацца з ніводнага прафесійнага фестывалю без узнагарод. Сёлета, сабраўшы прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, пацвердзіў: традыцыя жыве! На гэты раз "імяніннікамі" сталі Іна Дзідык і ўся творчая група, што працавала над стварэннем мастацка-публіцыстычнай перадачы "Простая і светлая таямніца".

Першы міжнародны фестываль тэлерадыёпраграм "Мой родны край", зладжаны Дзяржтэлерадыёкамітэтам Украіны, праходзіў на базе Закарпацкай тэлекампаніі і меў на мэце спрыяць аб'яднанню людзей, якія жывуць на Украіне. Працы на яго прадставілі 27 кампаній, у тым ліку з Польшчы, Літвы, Нарвегіі, Румыніі, Чэхіі і Балгарыі, паказаўшы 40 тэле- і радыёпраграм. Сярод іх фільм Іны Дзідык рашэннем міжнароднага журы быў прызнаны лепшаю аўтарскаю работай фестывалю.

"Простая і светлая таямніца" — аўтабіяграфічны фільм-споведзь чалавека, адарванага ад сваёй гістарычнай Бацькаўшчыны, які працягвае любіць родную Беларусь, беражэ сямейныя святыні, што дасталіся яму ад бабуляў і цяпер служаць абярогамі-талісманамі, шчыра перажывае за сучасны стан Радзімы. Чалавека, які здолеў палюбіць і новую Бацькаўшчыну, дзе ў жанчыны ёсць сям'я, дзе нарадзіўся сын, дзе жывуць новыя сябры, — Украіну. Гэта надзвычай удумлівы погляд паэта з тонкаю жаночаю душою і шчырымі вершамі і аповедамі пра найпатаемнае дзвюма мовамі — беларускаю і ўкраінскаю. Адным словам, Іна Дзідык рызыкнула зрабіць фільм пра сябе, паказаць аголены нерв уласнай душы. Рызыкнула і не прагадала. Многіх шакіравала, але перамагла.

І што, здавалася б, такога — даўнейшая ікона, дзіцячая зыбка, ручнік, стройная маладзіца быццам у марыве сіня-жоўтай сукенкі і першацвету пад босымі нагамі. Ды яшчэ рукі, узнятыя да неба, — як разгорнутыя крылы перад палётам у птушкі. Паэтычныя словы, тужліва-пяшчотная мелодыя вярэдзяць сэрца, што не развучылася трымцець, кахаць і адгукацца на чужы боль.

Пані Іна, нібы з экрана сышла, у тым жа блакітна-жоўтым строі, распавядае калегам-журналістам, што жадала як аўтар тым фільмам выспавядацца ў любові да найдаражэйшага, што павінна быць у кожнага чалавека, — да роднай зямлі і свайго дому. "Дом — гэта не месца і не час, гэта пачуццё, што заўжды са мною". Светлыя, шчырыя і лірычныя пачуцці ў кадры, а за кадрам — боль. "За маю Бацькаўшчыну..." — не можа не прамовіць балесна Іна Снарская. Ёй так пасуе яе дзявочае прозвішча. Яна пакінула яго сабе паэтычным псеўданімам.

Дзесяць тэлекампаній Украіны ўжо заказалі "Простую і светлую таямніцу" для паказу ў сваіх абласцях. Будзе яна дэманстравацца і ў рамках традыцыйнай дэкады палтаўскага тэлебачання, што адбудзецца ў Севастопалі. Так што амаль ва ўсёй Украіны з'явіцца нагода паглядзець не проста разумны і прыгожы фільм, а і падумаць, пасумаваць, а магчыма, нават і паплакаць ад ачышчальнага і светлага пачуцця настальгіі...

...Высокія ноты любові сапраўднага паэта да свайго народа, да яго мовы, павага і пашана да іншага народа і да ягонай мовы (І. Дзідык дбайна вывучае ўкраінскую на філалагічным факультэце Палтаўскага педінстытута, размаўляе на ёй) выклікалі нямала роздумаў пра Украіну і ўкраінцаў. З тымі невясёлымі думкамі, ідучы ўжо разамлелымі на сонцы палтаўскімі ходнікамі, я (Віта Гірчанка, аўтарка артыкула "Каб я ўмела так любіць..." — заўвага перакладчыка. — **Я. Л.**) пыталася ў сябе толькі пра адно — як можна, прачасціўшыся з чыстай крыніцы высокай любові, працягваць гугнявіць "старые песни о главном"? Ці прапусціць нас такіх во ў сваю браму трэцяе тысячагоддзе? Пэўна, што не.

Іна ўзляціць "птушкаю". Бо мае ў сэрцы тое, што не памірае.

* * *

Вось так, узнёсла і захоплена, піша ўкраінскі друк пра нашу зямлячку, сціплую і далікатную ў сваёй жаноцкай прыгажосці і паэтычнай адухоўленасці Іну Снарскую. Ну а мы, беларусы? Як мне вядома, касету з тэлефільмам "Простая і светлая таямніца" некалькі месяцаў назад намеснік старшыні рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч перадаў на Беларускае тэлебачанне. Ці пабачым?.. Ды не трэба адчайвацца. Прыйдзе час, і акрыялая Бацькаўшчына годна адзначыць усіх сваіх вартых пашаны і ўхвалы дачок і сыноў. З верай у гэта будзем жыць і працаваць. Шчасця табе і новых творчых поспехаў, наша слаўная "пералётная птушка!"

**Яўген ЛЕЦКА.**

---

**З НОВЫХ ВЕРШАЎ**



**Віктар Шніп нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, у 1987 годзе скончыў ВЛК Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве. Працаваў у часопісе "Беларусь", газеце "Наша слова". З 1995 года — адказны сакратар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Упершыню выступіў у друку ў 1977 годзе ў газеце "Чырвоная змена". В. Шніп — аўтар кніг паэзіі "Гронка святла", "Пошук радасці", "Шляхам ветру", "Горад Утопія", "На рэштках Храма". "Выкраданне Еўропы" і інш. Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987).**

**Віктар ШНІП**

### ВОСЕНЬСКАЯ ЭЛЕГІЯ

Туманамі засланы прасторы,
І прамоклыя травы маўчаць.
На зямлю вечаровыя зоры
Без эмоцый сцюдзёна глядзяць.

Мы расклалі агонь сярод поля,
Мы ўцяклі ад сямейнай нуды.
Нам абрыдла кватэрная доля
І жыццё ля стала і пліты.

Да агню, каб пагрэцца, нясмела,
Толькі ў неба ўсплыве маладзік,
Прыйдзе ціхі стары Палявік
У кашулі, як воблака, белай.

Мы гарбатай напоім старога.
Паляціць за размоваю час.
Ён спытае: "Ці верыце ў Бога?..
Трэба верыць!" — і пойдзе
ад нас.

І патухне агонь, попел шэры
Пачарнее ад мокрых вятроў.
І мы вернемся ў горад за дзверы
Да сваіх непрыбраных сталоў.

І схаваем сябе за газеты.
Здасца раем ізноўку нам дом.
І прыціхнем, удзячныя свету,
У якім і жывём, і памром.

Ды прад смерцю прыўспомніцца
поле,
І агонь, і стары Палявік.
І захочацца зноўку нам волі...
Вольным стане апошні
наш крык...

* * *

А сонца ўжо зусім не тое,
Хаця яшчэ і залатое,
Як крона восеньская клёна.
Сядзіць на валуне варона,
У неба шэрае глядзіць.
Там не яна — там дзень ляціць
І ў вышыні, як крык, знікае.
Варона ноч сваю чакае.
І сонца ўжо зусім не тое,
Хаваецца, нібы чужое,
За летуценныя аблокі.
Іду дадому адзінокі,
Як першы ліст, што ападае,
Як ліст апошні, што чакае,
Калі яго сарве вятрамі
І панясе па-над палямі,
Дзе сонца ўжо зусім не тое,
Дзе ўсё нібыта нежывое...

### ВОСЕНЬ У ТРАЕЦКІМ

Траецкае, нібы майстэрня мастака, прапахла фарбамі і кавай,
І вецер, як натуршчык п'яны, стомлена блукае між старых дамоў,
Дзе ціха, як на могілках, і ўсім, нібы ў музеі, тут яшчэ цікава
Хадзіць і сцены разглядаць і булкамі карміць нахабных галубоў.

Ты зойдзеш у задымлены шынок і соку вып'еш, купіш цыгарэт,
Паслухаеш спакойную, як павуціна, музыку, што льецца сонна
На тлумны і галодны, як сабака, і, як першы снег, халодны свет,
І будзе ўсё навокал, быццам шэры пыл і неба над зямлёй, будзённа.

Ты вернешся дамоў і мне пра ўсё раскажаш, як пра даўні светлы сон,
І я скажу табе, што не люблю, калі ідуць у нас дажджы бясконца,
І праплыве над мокрым Менскам белы, быццам філіжанка, парасон,
І будзе ў ім, нібыта кава з каньяком, рудое маладое сонца.

Але пакуль яшчэ зжаўцелае лісцё на чорны дол з дажджом злятае,
Але пакуль яшчэ ты ходзіш, як між прывідаў, старых, як гэты свет, дамоў,
Мая душа з кватэры цеснай, як з астрога, на дарогу пазіраe,
Зайздросцячы вятрам ля сквера і ў нябёсах белай пары галубоў.

* * *

Гэта ноч, нібы воўк, за вакном,
Гэта вецер ганяе лістоту...
Не кажы, што мы сумна жывём,
Не кажы, не люблю пра самоту.

Дзень прайшоў, быццам бы
й не было
І, здаецца, ніколі не будзе.
Дзень прайшоў, бы згарэла святло,
На якое маліліся людзі.

Як світанне, пральецца віно,
І паўторацца словы самоты...
Гэта ноч заглядала ў вакно,
Гэта Храм будаваўся
з лістоты.

* * *

У гэтай жоўта-шэрай кругаверці,
Калі лісцё шукае смерці,
Люблю каля кастра сядзець.

І думаць пра цябе, і верыць,
Што будзеш зноў у вечар шэры
На неба дымнае глядзець.
Чакаць мяне, калі прыеду
З далёкага, як лета, свету,
Дзе я жыву, як воўк, чужым.

Але я ў вечнай кругаверці
Каля кастра, як Храма смерці,
Знікаю ў цемры, нібы дым.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ВАЛЯНЦІНА ШЧЭРБА: «Я НЕ СТАРАЛАСЯ ЗРАБІЦЬ З СЫНА СЛАВУТАСЦЬ»


Валянціна ШЧЭРБА.

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І ў той жа час на дзіва цярплівы рыбак. Цэлы дзень мог прасядзець з вудай, нават калі нічога не лавілася.

**— А як Віталь трапіў у гімнастыку?**

— Я з сына спартсмена спецыяльна не рыхтавала. А ў гімнастыку трапіў, калі яму было шэсць гадоў. Неяк, гуляючы па горадзе, зайшла з ім у спартыўны комплекс


Віталік з дзедам.

"Працоўныя рэзервы": захацелася пабачыць сваіх аднакурсніц. Пакуль мы па-жаночы гаманілі, Віталік зацікавіўся кольцамі, перакладзінай, брусамі. Трэнеры, убачыўшы такое, занепакоіліся" "Чыё дзіця? Забярыце, а то сарвецца". Аднак паназіралі ды кажуць: "А ну, хлопчык, пакажы, што ўмееш на перакладзіне". Віталік падцягнуўся разоў пятнаццаць. Трэнеры здзівіліся, а Леанід Выдрыцкі пашкадаваў: "Таўставаты ён". Але прапанавалі ўзяць Віталіка ў спартыўны інтэрнат. "Ні за што, — адмовілася я. — Круглага выдатніка са школы з англійскай мовай навучання? Не, не аддам".

**— І ўсё ж аддалі ў спартінтэрнат!1**

Пасля сямі класаў аддала, бо зразумела, што так будзе лепш. Ужо праз некалькі месяцаў прыйшлі першыя спартыўныя поспехі. Трэнеры яму дасталіся выдатныя — Леанід Выдрыцкі, Сяргей Шынкар, Леанід Філіпёнак. Трэніраваўся Віталік па два разы на дзень. Я часта наведвала яго, глядзела, як ён жыве, вучыцца, а выхадныя праводзілі разам, дома.

**— Але вялікі спорт — гэта частыя раз'езды...**

— У асноўным — так. З дзевятага класа сын пачаў ездзіць на спаборніцтвы — рэспубліканскія, саюзныя. Потым прапанавалі Віталіку ўсесаюзныя зборы. Трэнер зборнай каманды гімнастаў Леанід Аркаеў быў задаволены. Віталь пачаў апярэджваць у майстэрстве вядомых спартсменаў. Газеты называлі сына будучай зоркай. А я не верыла. "Пасвеціцца гэтая зорка крыху, — думала, — і знікне". Але недаацаніла Віталя: ён імкліва рухаўся наперад.

**— Валянціна Мікалаеўна, ці толькі ў спорце ваш сын праяўляў характар?**

— Ва ўсім, што рабіў, вызначаўся настойлівасцю. Вучыўся добра, цудоўна авалодаў англійскай мовай, што пазней вельмі прыдалося. Дома дапамагаў справіцца з хатнімі справамі. Мяне радавала, што Віталь заўсёды быў гатоў дапамагчы людзям у бядзе. Нехта крыўдзіць дзяўчынку? Віталь тут жа ўмяшаецца, абароніць. Суседзі неаднойчы казалі мне за гэта дзякуй.

**— Адкуль у яго такія беражлівыя адносіны да маці?**

— Думаю, разумеў, што мне даводзілася цяжка. З трох гадоў выхоўвала яго адна. Віталік сапраўды шанаваў мяне. Праяўлялася гэта ў многім. Ён вельмі любіць кветкі, асабліва палявыя. Збярэ букет, падорыць мне. Я з ім раілася, як і што лепш зрабіць. Ён ганарыўся мной. Аднойчы ў дзіцячым садзіку ўбачыў мой фотаздымак на Дошцы гонару. "Малайчына", — пахваліў. А праз некалькі гадоў згадаў: "Памятаеш, я тады паабяцаў абагнаць цябе? Цяпер на мяне ўвесь свет глядзіць".

**— Ці не славалюбства гэта?**

— Не думаю. Віталь застаўся сціплым чалавекам. Я магу ганарыцца, што выхавала не толькі вядомага ўсёй планеце спартсмена, але і асобу. Лічу гэта важнейшым за ўсё. Мусіць, паспрыяла таму наша сціплае жыццё. Віталь заўсёды стараўся дагадзіць мне. Неяк, калі ён сабраўся на спаборніцтвы, дала на дарогу дзесяць рублёў. Сын прывёз мне падарунак. Не на дзесятку, а больш. Спытала, дзе ўзяў грошы. "Зэканоміў," — адказвае. Якую маці не кране такі клопат?! І з сябрамі ён быў шчыры, чулы. Згадваецца такі выпадак. Неяк у мяне пабольвала сэрца. Калі я наведала школу, настаўніца спытала: "Як ваша самаадчуванне?" Я здзівілася, а яна расказала такую гісторыю. Аднойчы Віталь недавучыў урок, яму трэба было паставіць "тройку". Але сын сказаў, што мама расхвалюецца, а ў яе сэрца хворае, паабяцаў, што абавязкова выправіць.

**— Валянціна Мікалаеўна, як складвалася далей спартыўная кар'ера вашага сына!**

— Спартыўнае майстэрства Віталь набіраў імкліва. Заняўшыся гімнастыкай у 1978 годзе, у 1985 стаў членам юнацкай зборнай, а праз тры гады — і дарослай зборнай СССР. Тады і пайшлі бясконцыя спаборніцтвы, паездкі. Лягчэй назваць краіны, у якіх ён не быў. Званіць неяк ноччу: "Чуеш — самалёт гудзе?" Я пытаю: "Ты ў аэрапорце?" "Не, — адказвае, — у самалёце. Запомні, мамуля, хутка буду званіць са свайго, уласнага, самалёта".

**— Ці наблізіўся ён да такой мэты?**

— Так, сваю справу арганізаваў. Толькі на шляху да яе былі і зрывы, і цяжкасці, і гора. На возеры Круглым у Падмаскоўі, дзе размяшчалася трэніровачная база зборнай Савецкага Саюза па гімнастыцы, пазнаёміўся з Ірынай


Віталь і Ірына ШЧЭРБА.

Чарнілеўскай, чэмпіёнкай свету па гімнастыцы. Ажаніліся. На падыходзе былі Алімпійскія гульні. Амерыканскія сябры Віталя прапанавалі яму пажыць у Пенсільваніі. Там нарадзілася Хрысціна. А з Ірынай здарылася бяда: на вялікай хуткасці стукнулася ў дрэва, разбіла машыну і вельмі скалечылася сама. Доўга лячылася. Пачаліся непрыемнасці і ў Мінску. Абрабавалі кватэру Віталя. Укралі адну аўтамашыну, потым другую. А аднойчы, калі Ірына пайшла з Хрысцінай на прагулку, каля іх спыніся "Мерседэс" з зацемненымі шыбамі, выйшлі двое ў цывільным, схапілі Ірыну і пачалі цягнуць у "Мерседэс". Дзякуй людзям — адбілі, не далі выкрасці. Што тыя злыдні хацелі — невядома. Можа выкуп запатрабавалі б? А Ірына сказала: "Маё цярпенне скончылася. Так я жыць не магу". І пасяліліся яны ў штаце Пенсільванія. Віталь адкрыў школу гімнастыкі. Ірына працуе там у адміністрацыйным аддзеле.

**— Якія далейшыя планы Віталя?**

— Яго школа існуе ўсяго год. Але вынікі абнадзейваюць. Пра планы магу сказаць адно: Віталь удзячны Беларусі, што вырас тут, стаў сусветнай славутасцю, і хоча аддзячыць радзіме дабром. Мяркуе стварыць беларуска-амерыканскую спартыўную школу, якая будзе базай для падрыхтоўкі таленавітых беларускіх гімнастаў.

Але для мяне ён назаўсёды застанецца Віталікам, маім чулым хлопчыкам. Усё было ў нашым жыцці. Здаралася, вечарамі шыла, вязала, перашывала старэнькія адзежы, каб сынок не выглядаў горш за іншых. Але і сёння мы патрэбны адзін аднаму. Такім сынам можна ганарыцца.

**— А як цяпер, ці мяркуеце быць разам?**

— Віталь пакуль не збіраецца вяртацца ў Мінск. А я? Можа, калі-небудзь і надумаю падацца да яго ў Лас-Вегас.

**Гутарыў Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**Фота з сямейнага архіва і Віктара СТАВЕРА.**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

*Уладзімір ДУБОЎКА*

## ЗАЛАТАЯ, АСЕННЯЯ РАНІЦА...

**Залатая, асенняя раніца!**
**Хараством ты на свеце адна.**
**Сонца ў пушчы глыбокай купаецца**
**І ніяк не дастане да дна...**

**Мітусіцца лісцё па аселіцы,**
**Як дзвіна матылькоў-мітульгі.**
**І узвее яна, і пасцелецца,**
**Распаветрыцца на берагі.**

**А яны, берагі-беражыстыя,**
**Не стрымаюць асенні напеў.**
**І ліецца, віецца сукрысты ён**
**І разгортваецца каля дрэў.**

Залатая восень... Цудоўная, непаўторная пара: ціха кружыцца ў паветры рознакаляровае лісце, чарада за чарадой адлятаюць у вырай птушкі. Пачынае халадаць. І раптам нібы зноў вяртаецца лета: сонца, быццам развітваючыся з намі да надыходу вясны, шчодра пасылае на зямлю свае цёплыя промні. У народзе гэтая пара называецца бабіным летам (таму што на гэты час прыпадае значная частка жаночай сельскагаспадарчай працы). Звычайна гэты перыяд пачынаецца ў канцы верасня і цягнецца ў нашых краях адзін-два тыдні.

Шмат ёсць легенд аб павуцінні, што лятае ў пару бабінага лета. Вось адна з іх. "Маці Ісуса



Хрыста Марыя спрабавала сшыць перададзенную ёй вешчунамі палёнку для сына. Але як толькі яна дакранулася іголкай да палёнкі, вецер вырваў нітку і панёс. І колькі ні спрабавала святая Марыя працягнуць нітку з іголкай праз палёнку, яна вырывалася і адлятала.

А праз гады, калі святая Марыя плакала каля распятага на крыжы сына, ніткі, якія калісьці вырваліся з яе рук, сабраліся з усіх канцоў свету і, абвіўшыся вакол крыжа, утварылі выратавальную мяккую палёнку. З-пад яе пачуўся голас: "Мама, навошта ты імкнешся зменшыць мае пакуты? Ніткі Прасвятой Дзевы, пакіньце мяне і ідзіце закрываць гора чалавечае". З таго часу і лятаюць гэтыя ніткі па ўсім свеце з усходу на захад восенню пасля 21 верасня (дня нараджэння Багародзіцы Марыі). Кожны з нас бачыў іх — гэта асенняе павуцінне".

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:

Адказны сакратар **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС:** 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

**ТЭЛЕФОНЫ:** (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Тыраж 1 625 экз.
Індэкс 63854.
Зак. 1907.
Падпісана да друку 11.10.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).